# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 20 (585) ГОД XII 14 МАЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.






**Трывожце, дарогі і добрыя сны,**
**Трывожце, барвовыя ветры вясны,**
**Нясіце бязмерную радасць сваю,**
**Нясіце нахітрую песню маю,**
**Каб толькі не ведаць спакою нідзе,**
**Каб толькі не ўпасці ў імклівай**
**хадзе!**

**Анатоль Канапелька**

## БГКТ

### АГЛЯД У БЕЛЬСКУ

23 красавіка Бельскі аддзел БГКТ арганізаваў павятовы агляд драмгурткоў з беларускім рэпертуарам. Рыхтавалася да іх 7 драмгурткоў, а ўзяло ўдзел толькі 3.

Самадзейнікі з вёскі Аўгустова падрыхтавалі дзве п'есы: Алеся Барскага «Гарадскія госці» і Уладзіміра Паўлючука «Конская кніжка».

Аматарам з Аўгустова прызнана першае месца і права выступаць на аглядзе драмгурткоў у Беластоку. На асаблівае падкрэсленне заслугоўвае тое, што рэжысёр Васіль Кардзюкевіч не трымаўся блізка да тэксту. Ён сам у некаторых месцах яго ўдасканаліў. Прыемнай з'явай таксама з'яўляецца тое, што ў п'есах прымалі ўдзел старэйшыя жанчыны і мужчыны.

На другое месца заквaліфікаваліся самадзейнікі з Рыбалаў, якія выступалі з п'есай Кандрата Крапівы «Валодзін гальштук», а на трэцяе — аматары з Паўлаў, якія выконвалі драму Іды Эвальда «Мараль Наталлі Зотавай».

Узровень успомненых трох драмгурткоў быў даволі выраўнаны і значна вышэйшы, як у мінулых гадах на аглядах.

### АКАДЭМІЯ

26 красавіка гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў першамайскую акадэмію. З вельмі змястоўным і цікавым дакладам выступіла Вера Леўчук — журналіст «Нівы». У артыстычнай частцы акадэміі былі выступленні аматараў-спевакоў, якія выступалі ў рамках конкурсу на беларускую песню. Найбольш апладысментаў атрымала Валя Баброўская, якая выканала тры беларускія песні «Чорны вочкі, пара ўжо спаць», «У суботу Янка» і «Беласточчына».

Апошнія ўдзельнікі былі слаба падрыхтаваны.

### АБ МУЗЕІ БГКТ

Этнаграфічны музей БГКТ у Белавежы багаты ўжо цікавымі экспанатамі матэрыяльнай культуры беларускага насельніцтва Беласточчыны. Будынак ГС-у, у якім музей змяшчаецца, ужо стаў цесным і можа служыць толькі свайго роду складам экспанатаў. Каб наведвальнікі маглі прыходзіць у музей, неабходна частку экспанатаў адтуль перанесці ў іншае месца.

Ад нядаўна ў музеі працуе штатны працаўнік ГП БГКТ Уладзімір Гацута. Ён правёў інвентарызацыю экспанатаў. Паводле яго ўсе экспанаты, якіх больш як 400, можна было б падзяліць на 12 аддзелаў, а менавіта, на прылады: 1) плецянкарства з ракіты і лыку, 2) паляўніцтва, 3) рыбалоўства, 4) жывёлагадоўлі, 5) земляробства, 6) ткацтва, 7) ганчарства, 8 прылады перахоўвання прадуктаў, 9) драўляная тэхніка, 10) прылады гігіены, 11) мастацтва і 12) археалагічныя знаходкі.

У музеі ёсць на што паглядзець. Пабачыўшы экспанаты нашага музея, вучоны этнограф з Беларусі — Леанід Побаль гаварыў, што музей гэты паводле багацця сваіх экспанатаў мала ўступае музею мінулай матэрыяльнай культуры беларусаў у Пінску.

Калі б гэтыя экспанаты былі ў вялікім добрым памяшканні, дык напэўна сваёй цікаўнасцю наш музей прыцягваў бы многіх.

Ужо хутка прыродніцка-лясны музей у Белавежы будзе перанесены ў новапабудаваны будынак. А каб пасля яго атрымаць памяшканне для музея БГКТ, дык гэта было б проста цудоўна.

М.Х.




Пажоўклыя лісточкі ненайлепшай паперы, часам гэта проста старонкі школьных сшыткаў. І загаловак:

«БЕЛОСТОКСКАЯ ПРАВДА»

А над ім лозунг, які тады пралятаў па ўсёй краіне Саветаў:

**«Смерть немецким оккупантам!»**

Калі адзначаем свята прэсы і кніжкі. варта прыпомніць, што выдавалася на Беласточчыне і гэтая газета.

Была яна органам Беластоцкага абкома КП(б) Беларусі і Абласнога Савета Дэпутатаў працоўных. Яе выдавала рэдакцыйная калегія ў складзе: **Якуб Колас, Сцяпан Майхровіч, Пілiп Пестрак, Сяргей Прытыцкі і Я. Савіцкая.** Прозвішчамі гэтых заслужаных людзей падпісаны быў кожны нумар газеты.

«Беластоцкая праўда» выходзіла ад першых дзён фашысцкай акупацыі Беласточчыны аж да яе вызвалення. Спадарожнічала тады «Беластоцкая праўда» ўсім найважнейшым падзеям перыяду акупацыі. Гэта відаць з яе старонак. Вось 7 лістапада 1943 года ў інфармацыі «Рэйкавая вайна» падрыўнік Грыгорый пісаў:

«Па варожых камунікацыях наносіцца адзін удар за другім. Асабліва пладаносны з'яўляўся кастрычнік. Шэраг партызанскіх груп на важнейшых чыгуначных магістралях праціўніка паднялі ў паветра каля дзвюх тысяч рэек. Рух на дарогах быў спынены найменш на тыдзень. Апрача гэтага савецкія патрыёты разрушылі 6 тысяч метраў тэлеграфнай і тэлефоннай лініі».

Тут таксама знаходзім інфармацыі Р. Белавежца. Піша ён:

«У Заблудаўскім раёне ў вёсках Валілы і Навасёлкі нямецкія каты замучылі некалькі дзесяткаў чалавек...»

Далей гэты ж самы Р. Белавежац піша пра трагедыю Райска. У тым жа нумары Я. Даніліна апавядае пра баявыя справы Польскай Дывізіі імя Т. Касцюшкі.

Калі да ўсяго гэтага дадаць апошнія паведамленні Савінфармбюро аб вызваленні Кіева, аб ходзе баёў на другіх франтах і інфармацыі пастаяннай рубрыкі «Еўропа супраць гітлерызма» пра баявыя справы югаслаўянскіх партызан, якія адбілі ў немцаў некалькі гарадоў, пра італьянскіх партызан, якія ўзарвалі частку тунеля Мон-Сені, пра рух супраціўлення ў Даніі, у сувязі з чым «галоўны камандуючы германскімі вайскамі ў Даніі фон Гатнекен наложыў на Капенгаген кантрыбуцыю ў паўмільёна крон» ды яшчэ заметкі і цэлыя рэпартажы пра баявыя дзеянні савецкіх, найчасцей мясцовых партызан — тады зможам уявіць, як багатая па зместу была «Беластоцкая праўда». Цяпер выдаецца гэта ўсё звычайным, але тады кожнае слова падпольнай газеты, кожная яе вестка магла каштаваць жыццё. Відаць не заўсёды друкарам-падпольшчыкам магла дапамагчы Вялікая Зямля. Калі не хапала газетнай паперы, яны падмянялі яе звычайнымі вучнёўскімі сшыткамі. Па форме відаць, што сшыткі не былі рускія. Дабывалі іх значыць у немцаў.

Як жа радаваліся людзі, калі «Беластоцкая праўда» (ад 19 лістапада 1943 г.) паведамляла:

«Толькі за чатыры месяцы летняга наступлення Чырвоная Армія вызваліла ад гітлераўскіх захопнікаў звыш 38 тысяч населеных пунктаў, сярод іх 162 гарады».

У іншым нумары:

«Усё больш актыўнай стаецца барацьба беластоцкіх партызан. Толькі за перыяд ад 27 жніўня да 31 снежня 1943 г. партызаны пусцілі пад адхон 53 воінскія эшалоны з жывой сілай і тэхнікай праціўніка. Знішчана 22 паравозы, 250 вагонаў, 98 платформ. У час узрываў забіта 981 і паранена 180 нямецкіх салдат і афіцэраў. У выніку крушэнняў рух цягнікоў быў спынены на 550 гадзін. За гэты перыяд партызаны падарвалі 1114 штук рэек. Апрача гэтага разбурана 4500 кіламетраў вузкачыгуначнага палатна, якое мела важнае значэнне для гітлераўцаў. Партызаны ўзялі пад кантроль усе важнейшыя магістралі, на якіх спалілі 26 аўтамашын і 1 матацыкл. Знішчылі каля 89 кіламетраў тэлефонна-тэлеграфнай лініі, 16 мастоў. У баях з нямецкімі захопнікамі забіта 1194, паранена 126 і ўзята ў палон 33 немцаў...» — піша В. Якута.

Газета інфармавала аб тэгеранскай канферэнцыі саюзнікаў, дзе вырашаліся важныя праблемы міжнароднага характару. А калі фронт набліжаўся да Беласточчыны, на старонках «Беластоцкай праўды» ўсё больш месца займалі праблемы ўстанаўлення новай польскай дэмакратычнай дзяржавы, яе суадносін з Савецкім Саюзам і яе новых граніц. Тут вялася дыскусія адносна так званай «лініі Керзона».

«Беластоцкая праўда» была баявой сяброўкай і партызан і зняволенага акупантам насельніцтва Беласточчыны. Яе словы грамілі, як зброя.

Безумоўна, варта ўстанавіць больш дакладную яе гісторыю. Таму яшчэ будзем вяртацца да гэтай праблемы на старонках «Нівы». Спадзяемся, што дапамогуць нам жыхары Беласточчыны, якія магчыма атрымоўвалі гэтую газету і тайком яе чыталі.

**Віктар Рудчык**



**Дзявочы карагод. Да фотарэпартажа А. Карпюка «Смаргонскія самадзейнікі» (стар. 3).**

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ЯШЧЭ АБ КАНФЕРЭНЦЫІ

Аб канферэнцыі камуністычных і рабочых партый Еўропы ў Карлавых Варах мы пісалі ў папярэднім нумары. Але паколькі яна выклікала многія каментарыі сусветнай прэсы, радыё і тэлевізіі, хочам прывесці некаторыя ўдакладненні, гістарычныя рысы і т.п.

Зусім новым была **прапанова** падпісання дагавору паміж еўрапейскімі дзяржавамі аб не прымяненню сілы і не ўмешванні адной дзяржавы ў справы другой. Бонскі ўрад таксама прапануе такія дагаворы, але гаворыць, што гэта маюць быць толькі двухбаковыя дагаворы. Прадстаўнікі камуністычных партый лічаць, што гэта больш дзеліць, як спалучае краіны, і таму адкідаюць гэтыя прапановы.

Ідэя склікання канферэнцыі нарадзілася ў палове 1966 г. і была высунутай камуністычнымі партыямі капіталістычных краін Еўропы. Трэба адзначыць, што пасля II сусветнай вайны была гэта першая сустрэча кампартый з сацыялістычнага і капіталістычнага лагера.

Падрыхтоўка вялася доўга. Ішлі двухбаковыя перагаворы між паасобнымі партыямі аб тым, ці ёсць сэнс склікаць такую нараду. Былі галасы, якія, паклікаючыся на нараду краін Варшаўскага дагавору ў Бухарэсце, гаварылі, што няма патрэбы яшчэ раз сустракацца. Аднак большасць была за скліканнем.

ФКП і ПАРП было даручана арганізаванне першай сесіі рэдакцыйнай камісіі. Праект дакументу быў разасланы аж на 6 тыдняў перад нарадай, што было не толькі характэрна канферэнцыі, але здарылася ўпершыню ў дзейнасці рабочых і камуністычных партый. Адразу ж справа была пастаўлена так, што не будзе ніякай трагедыі, калі якая-небудзь партыя не прыйме ўдзелу ў канферэнцыі. Факт, што даная партыя не прысутнічае на нарадзе, не можа быць прычынай дыскрымінацыі данай партыі. Новым звычаем ёсць і тое, што партыі, якія не прымалі ўдзелу ў нарадзе, змогуць прылучыцца і падпісаць прынятую дэкларацыю.

Аднагалоснае прыняцце дэкларацыі сведчыць аб вельмі моцнай салідарнасці партый, якія стаўляюць за заданне дайсці да найшырэйшых кругоў грамадства, якія ненавідзяць вайну.

### ПАМЕРЛА К. КАСЫГІНА

Пасля 2 год невылячальнай хваробы, маючы 59 год, памерла Клаўдзія Касыгіна — жонка прэм'ера СССР.

### ЗНІЖАНЫ ЦЭНЫ

У Румыніі зніжаны цэны на каля 600 відаў тавараў.

### «Я ЗАБІЎ РАСПУЦІНА»

На ўрачыстым адкрыцці міжнароднага кінафестывалю ў Кане быў дэманстраваны французскі фільм «Я забіў Распуціна». На фестывалі будзе паказана 30 фільмаў з 17 краін.

### РЭАРГАНІЗАЦЫЯ СКЮ

Спецыяльная камісія Саюза Камуністаў Югаславіі прыняла тэзісы ў справе рэарганізацыі СКЮ. А.К.

## БССР

### ПЕРШАМАЙ

Першамайская дэманстрацыя ў Мінску пачалася ўрачыстым маршам войск Беларускай ваеннай акругі.

На цэнтральнай трыбуне знаходзіліся кіраўнікі беларускай кампартыі і ўрада на чале з П. Машэравым, першым сакратаром ЦК КП Беларусі і Ц. Кісялёвым, прэм'ерам беларускага ўрада. Прамову меў генерал-палкоўнік С. Марахін, камандуючы войскамі Беларускай ваеннай акругі.

У дэманстрацыі, м. ін., прыняла ўдзел вялікая група в'етнамскіх студэнтаў, што вучацца ў Мінску.

### НАЙЛЕПШЫЯ

Закончыўся 6-ы рэспубліканскі конкурс на лепшыя па мастацка-тэхнічнаму і паліграфічнаму афармленню кніжкі беларускіх выдавецтваў 1966 года. Журы конкурсу адзначыла дыпломам першай ступені дзве кніжкі выдавецтва «Беларусь»: «Мы раскажам пра Мінск» Сяргея Грахоўскага, Ул. Карпава, Р. Сабаленкі, Т. Хадкевіча і «Як звяры да зімы рыхтуюцца» І. Бурсава.

Разам адзначана каля трыццаці кніжак.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

У Мінску адбылася канферэнцыя лепшых воінаў-выдатнікаў баявой і палітычнай падрыхтоўкі з Беларускай ваеннай акругі (БВА). Намеснік камандуючага войскамі БВА генерал-лейтэнант Х. Амбаран меў даклад аб выкананні сацыялістычных абавязацельстваў у гонар 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

У канферэнцыі прынялі ўдзел палітычныя кіраўнікі Беларусі.

### АРТЫКУЛ

Цэнтральная беларуская газета «Звязда» змясціла артыкул — «Марксіст, вучоны, патрыёт» — напісаны ў сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння **Стэфана Рудзянскага,** вядомага польскага тэарэтыка і рэвалюцыянера, які загінуў пад час захопу немцамі Львова ў 1941 годзе.

### СУСТРЭЧА

У клубе Саюза беларускіх пісьменнікаў адбылася цікавая сустрэча беларускіх дойлідаў з пісьменнікамі. Гаварылася аб будучым абліччы беларускіх гарадоў.

Архітэктары адказалі на шматлікія пытанні пісьменнікаў, гутарка была шчырай, былі закрануты пытанні нацыянальнага стылю ў архітэктуры. Гаварылася таксама аб эстэтычных і функцыянальных вартасцях сучасных будынкаў.

### ПОМНІКІ

Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў Беларускай ССР па справах аховы прыроды ўзяў пад ахову пяцьдзесят рэдкіх і вельмі старых дрэў, аб'яўляючы іх помнікамі прыроды. Асабліва шмат іх на Брэстчыне. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ДНІ АСВЕТЫ, КНІЖКІ І ПРЭСЫ

Ва ўсёй краіне пачаліся ўрачыстасці, звязаныя з Днямі асветы, кніжкі і прэсы. Пачатак дала ўрачыстая акадэмія з удзелам прадстаўнікоў цэнтральных партыйных і дзяржаўных улад, якая адбылася 3 мая ў Варшаўскім Палацы культуры і навукі. З дакладам выступіў міністр культуры і мастацтва Люцыян Матыка. Даючы высокае прызнанне такім сродкам масавай інфармацыі, як радыё, тэлевізія, кіно, падкрэсліў ён аднак асаблівую вартасць друкаванага слова. Міністр заявіў:

«Калі аднак надалей падтрымліваць будзем прывіліяванае становішча асветнай, папулярна-навуковай, навуковай, літаратурнай кніжкі і падручніка, становішча журналістыкі і публіцыстыкі, дык не толькі таму, што друкаванае слова перамагае час. Але і таму, што дапамагае думаць, з'яўляецца асноўнай умовай развіцця чалавека, эканамічнага, грамадскага і культурнага развіцця народаў».

### ЗВАРКА МЕДЗІ

Дацэнт інжынер Ян Вэнгжын з Глівіцкага інстытута зваркі знайшоў новы спосаб зваркі медзі. Дагэтуль для зваркі аднаго метра медзі патрабавалася праца чатырох людзей на працягу 8 гадзін. Метад Вэнгжына дазваляе выканаць гэтую працу адной асобе на працягу 10 мінут. Новы спосаб зваркі быў дэманстраваны на з'ездзе зваршчыкаў ў Глазгоу, дзе выклікаў сенсацыю сярод спецыялістаў.

### ЗЯМЛЯ

4.400 сельскагаспадарчых гурткоў краіны пераняло дагэтуль на загаспадараванне звыш 130 тысяч гектараў зямлі з дзяржаўнага фонду. З гаспадаркі на іх асягнута ў мінулым годзе звыш 485 мільёнаў злотых даходу.

### ЖЫТА НА КОРМ

У Познані адбылася агульнапольская нарада, прысвечаная вырошчванню і выкарыстання жыта на корм для жывёлы. Нарада паказала, што вырошчванне жыта на корм вельмі выгаднае, эканамічнае і карыснае.

### ТРУСКАЛКІ

Трускалкі ў гэтым годзе паявяцца даволі позна, бо ў першай палове чэрвеня. Спецыялісты баяцца, што доўгая дажджавая пагода ў час квітнення можа пашкодзіць іх развіццю.

### ЛЯМПА ЛЕНІНА

Музей Леніна ў Кракаве здабыў новы цэнны экспанат. З'яўляецца ім нафтавая лямпа, якую здала ў музей Анна Цеханоўская. У яе цёткі жыў калісьці Ленін.

Пры гэтай лямпе Ленін працаваў у час другой сваёй пабыўкі ў Кракаве ад кастрычніка 1913 года да мая 1914 года. Пісаў ён тады свае артыкулы, прысвечаныя сялянскай праблеме ў Расіі і сярэдняй Еўропе. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ГАРЦЭРСКІ АЛЕРТ

III гарцэрскі алерт быў аб'яўлены познім вечарам 5 мая. Звыш 90 тысяч зухаў і гарцэраў з Беластоцкага ваяводства пастаўлена было ў поўную гатоўнасць. Наступнага дня гарцэры прынялі ўдзел у шматлікіх працах, якія выконвалі грамадскім чынам. Яны даводзілі да парадку магілы і памятныя месцы апошняй вайны, правяралі дарожныя знакі, падрыхтоўку да барацьбы з агнём, сховішчы і гаражы, наводзілі парадак на сваіх школьных пляцоўках.

У нядзелю 7 мая роўна ў 9 гадзін раніцы зноў адазваліся завадскія сірэны. Яны склікалі гарцэраў на зборныя пункты. Затым былі наладжаны цікавыя экскурсіі і вялікія гульні пад адкрытым небам. Гарцэры змагаліся за «Адзнаку абароннай спраўнасці».

У выкананні шматлікіх і складаных заданняў III алерту памагалі гарцэрам прадстаўнікі войска, міліцыі, Лігі абароны краіны і Польскага чырвонага крыжа.

У трэцім і апошнім дні сёлеташняга гарцэрскага алерту адбыліся шматлікія сустрэчы афіцэраў з гарцэрамі. Расказалі яны пра вайну. У Беластоку наладжаны быў урачысты збор усіх гарцэраў ля «Помніка ўдзячнасці» на беластоцкіх Плянтах.

### СВЯТА КНІЖКІ

Як штогод, у першую майскую нядзелю быў наладжаны ў Беластоку кірмаш кніжкі. Ён праходзіў у маляўнічай алеі беластоцкага парку перад тэатрам. Свае кніжкі падпісвалі шматлікія аўтары, а сярод іх — Аляксандр Амільяновіч.

### ГАСТРОЛІ «СЛЁНСКА»

Дзяржаўны народны калектыў песні і танца «Слёнск», які канцэртам 6 мая распачаў гастролі ў Беластоку, сустрэўся тут з вялікім прызнаннем. На канцэрты, дзякуючы дапамозе турыстычнай спулдзельні «Грамада», прыязджалі жыхары многіх гарадоў і мястэчак, між іншым, з Сямяціч, Ломжы і Замбрава. Калектыў «Слёнск» прабываў у Беластоку цэлы тыдзень.

### ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

9 мая — Дзень Перамогі. 22-ая гадавіна разгрому фашысцкай Германіі таксама ўрачыста адзначалася на Беласточчыне. Адбыліся шматлікія сустрэчы ваенных ветэранаў і афіцэраў з насельніцтвам і моладдзю.

### ПЦК

Арганізацыя Польскага чырвонага крыжа налічвае на Беласточчыне 187 тысяч членаў. Яна пастаянна павялічваецца. Зараз у нашай краіне адзначаюцца Дні ПЦК.

### ЗАВАДСКІ ФОНД

Рабочыя ваўнянай фабрыкі імя Сяржана ў Беластоку ў мінулым годзе выпрацавалі 2 мільёны 258 тысяч злотых завадскога фонду, з якога звыш паўтара мільёна злотых прызначылі на ўзнагароды для сваіх працаўнікоў. Рэшту адвялі на грамадскія патрэбы калектыву сваёй фабрыкі. (вр)




**NIEDZIELA 14.V.**

8.00 „Budzik" — konkurs zespołów estradowych (Moskwa); 8.30 Politechnika TV; 10.10 „Gorące południe" — film fab. bułg.; 11.30 Dziennik; 11.40 PKF; 11.50 „Wielkie sprawy małych działek"; 12.10 „W starym kinie"; 13.10 „Czarownice"; 13.35 „Przemiany"; 14.05 Dla dzieci: R. i F. Atwatar „Pan Popper i jego pingwiny"; 15.25 „Sezam muzyczny"; 16.00 „Ludzie i zdarzenia"; 16.15 „Udział Polaków w II Wojnie Światowej" — teleturniej. 17.25 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia V (filmowego) i VI etapu na trasie Koszalin — Szczecin (165 km); 18.20 „Teatrzyk Andrzeja Nowickiego"; 18.55 „Spotkanie z pisarzem" — Stanisław Dygat; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 19.55 „Słownik wyrazów obcych"; 20.20 „Variete w studio" — niedzielny program rozrywkowy (Budapeszt); 21.05 „Szlachectwo zobowiązuje" — film fab. ang.; 22.45 Niedziela sportowa.

**PONIEDZIAŁEK 15.V.**

16.55 Dziennik; 17.00 „Przygody Gapiszona" — film; 17.10 „Pod siatką i pod koszem" odc. II; 17.35 „Radar"; 17.45 „Kontrowersje"; 18.10 „Eureka"; 18.40 Kino Krótkich Filmów; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Od Kaukazu do Tień-Szaniu" — rep. film.; 20.20 Teatr TV: A. Arbuzow „Tania"; 22.10 „Na półkach księgarskich"; 22.20 Dziennik.

**WTOREK 16.V.**

10.00 „Młyn nad Padem" — film fab. wł.; 12.30 Przysposobienie Rolnicze: „Gotowanie nie jest trudne"; 15.10 Przysposobienie Rolnicze: „Gotowanie nie jest trudne"; 15.50 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia VI etapu na trasie Szczecin — Berlin (157 km); 17.10 Dziennik; 17.15 Dla młodych widzów: „Zrób to sam"; 17.30 Telekram; 17.40 „Dziewczyna z holownika" — film radz.; 18.10 „Śpiewa Stefania Vela" (Szwajcaria); 18.55 „Próby"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Młyn nad Padem" — film fab. wł.; 21.55 „Na wielkim ekranie"; 22.35 Dziennik; 22.55 Politechnika TV.

**ŚRODA 17. V.**

9.50 „Podwójna gra" — film fab. NRD cz. I; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Dlaczego samochód jedzie?"; 15.45 „Zielonki w żywieniu trzody chlewnej"; 16.00 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia VIII etapu na trasie Berlin — Lipsk (205 km); 17.20 Dziennik; 17.25 „Klub Pancernych"; 17.55 PKF; 18.05 „Nie tylko dla pań"; 18.25 „Jazz w Filharmonii"; 19.05 „Trasa przez Tajgę" — film radz.; 19.00 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Pod znakiem jakości"; 20.30 „Podwójna gra" — film fab. NRD cz. I; 21.30 „Światowid"; 22.00 Dziennik.

**CZWARTEK 18. V.**

11.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Król chłopów"; 16.00 Kurs Rolniczy: „Trując szkodniki — nie trujemy się sami"; 16.35 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia IX i X etapu na trasie Lipsk — Gera; 17.45 Dziennik; 17.50 „Czy umiesz mówić po polsku?" odc. III; 18.10 „Medale i detale"; 18.25 „Przegląd muzyczny"; 18.50 „Klub dobrych gospodarzy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Preludium" — rep. film.; 20.15 „Podwójna gra" — film fab. NRD cz. II; 21.30 „Refleksje"; 22.00 Dziennik.

**PIĄTEK 19. V.**

11.20 „Podwójna gra" — film fab. NRD cz. II; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Montujemy gitarę elektryczną"; 14.30 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z trasy XI etapu w Karl Marx Stadt; 16.10 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XI etapu na trasie Gera — Karl Marx Stadt (180 km); 17.10 Dziennik; 17.15 „Miś z okienka"; 17.30 Dla młodych widzów: „Pisarska przygoda Ryszarda Liskowackiego"; 17.45 „Przygody Robinsona Crusoe"; 18.10 „Wielokropek"; 18.25 Wszechnica TV: „Bruno Winawer — człowiek, który pisał felietony"; 19.05 TV Kurier Mazowiecki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Antoś" — nowela filmowa fr. wg Guy de Maupassanta: 20.25 „Rozmowy o książkach"; 20.40 Program publicystyczny; 21.10 „Pieśni młodości" — muzyczny program rozrywkowy (Bukareszt); 21.50 Dziennik.

**SOBOTA 20. V.**

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Biologia — „Słodkie rośliny"; 10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „W wiosce afrykańskiej"; 11.25 „Szałowa dziewczyna" — film fab. fr.; 16.20 Program tygodnia; 16.40 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 16.55 Dziennik; 17.05 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów"; 18.05 „Spotkania z przyrodą"; 18.30 Tele-Echo; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.05 „Błękitny express"; 20.30 Dziennik; 20.45 Wiadomości sportowe; 21.00 „Śpiewki stare ale jare" — program rozrywkowy; 21.50 „Szałowa dziewczyna" — film fab. fr.; 23.05 „Francuskie melodie rozrywkowe" — film.




**12 maja, piątek**

9.00 „Źródła". Film; 15.15 Program; 15.20 Balet dla dzieci; 15.50 Dziennik; 16.00 Sztafeta nowin; 16.30 Mecz hokejowy (półfinał Pucharu ZSRR); 19.00 „900 lat Mińska"; 19.20 „Dwanaście mogił Chadżi Nasredzina". Film; 20.50 Śpiewa Askold Biesiedin.

**13 maja, sobota**

12.00 Program; 12.05 Kronika pięciolatki; 15.35 Blaski i cienie; 16.00 Klub filmowy; 17.00 Koncert; 20.00 „Wojna i pokój". Film. I seria („Andrzej Bołkonski").

**14 maja, niedziela**

7.55 Program; 8.00 Budzik; 8.30 Gimnastyka; 9.00 Turystyczne lato; 10.00 „Pisarze białoruscy" (Andrzej Aleksandrowicz); 10.30 Dla żołnierzy; 11.00 Mecz hokejowy. Finał Pucharu ZSRR; 13.30 Dla uczniów; 14.15 „Białe i czarne"; 14.45 Kiosk muzyczny; 15.10 „Śpiewa żołnierz"; 15.50 Wzywa „Sportlandia"; 16.50 J. Kupała. „Prymaki". Spektakl TV; 17.45 Szkatułka muzyczna; 18.00 Dziennik; 18.30 W. Gordon „Adresat nie znany". Spektakl TV; 20.00 Program rozrywkowy z Węgier.

 

# Смаргонскія самадзейнікі



Ансамбль песні і танца імя Агінскага на сцэне драматычнага тэатра імя Вянгеркі ў Беластоку.



Кветкі і пажаданні ансамблю складае кіраўнік аддзела культуры ў Гайнаўцы Станіслаў Кастэра.

Прадстаўнікі партыйных і дзяржаўных улад Беласточчыны з А. Лашэвічам і С. Жмійкам апладзіруюць смаргонскім самадзейнікам.





«Смаргонскія абаранкі».

Беласточчына дастойна святкавала дзень працоўных 1 Мая. Свята было тым прыгажэйшае і прыямнейшае, што першамайскія вечары ўпрыгожыў **Смаргонскі ансамбль песні і танца імя Агінскага з БССР.** Штопраўда, змог ён выступіць толькі ў Гайнаўцы, Ломжы і Беластоку, але і гэтага хапіла, каб расславіць беларускае слова, песню, танец, музыку. Цяжка пісаць аб ансамблі, калі сам яшчэ знаходзішся пад уражаннем прыгажосці і арыгінальнасці выступленняў мастакоў - самадзейнікаў. Не хапае слоў на тое, каб трапна аддаць усё, што аб іх думаеш.

Першае сутыкненне ансамбля з нашым гледачом адбылося ў Гайнаўцы. Зала дома культуры «Гурнік» запоўнена да апошняга месца. Толькі шчасліўцы сюды трапілі. «Прывітальнае слова» чытае ўдзельнік мастацкага калектыву **Зоя Пяткевіч.** Заслона рассоўваецца і на сцэне зззяе маладосцю, прыгажосцю і радугай беларускіх колераў убораў калектыў. Вядучая праграму К. Барзеева апавяшчае першую песню — «Прывітальная песня», затым ансамбль выконвае песню «Беларусь, дарагая мая». У гледачоў мякнуць сэрцы, калектыў становіцца больш блізкі, свой. І вось на сцэне танцавальная група. Выконваецца танец «Смаргонскія абаранкі». Далей гучаць беларускія сучасныя і народныя песні. Гляджу на першыя рады гледачоў і бачу радасныя позіркі, у іншых вочы зайшлі радаснай слязой, а яшчэ іншыя разам з ансамблем напяваюць знаёмыя словы народных беларускіх песень. І-шае аддзяленне канцэрта канчаецца Паланезам М. Агінскага, словы песні на бел. мове напісаў Я. Хвораст, а выконвае танцавальны калектыў і жаночая група хору. Дырыжыраваў ансамблем **Канстанцін Паплаўскі,** музычны кансультант ансамбля.

У час антракту прыслухоўваюся першым ацэнкам. Гайнаўляне хваляць калектыў, кожны расказвае аб тым, што яму найбольш спадабалася, а падабаліся словы Зоі, песні, музыка, танцы, падабаліся дзяўчаты, уборы калектыву.

Адным словам было ўсё тое, што стварае добрае, мілае ўражанне гледачоў.

Пачынаецца другое аддзяленне канцэрта. Дырыжыруе ансамблем **Уладзімір Раговіч.** Адзначаецца яно тым, што апрача беларускіх выконваюцца тут песні іншых народаў, і яшчэ тым, што гледачы ўсё больш апладзіруюць і выклікаюць на «біс». Гаворачы аб харыстах і аркестры, неабходна ўспомніць аб танцавальнай групе ансамбля. Іх танцы, апрацоўка і выкананне за кожным разам выклікалі «бісы». Піруэты ў выкананні **Станіслава Федаровіча** — кіраўніка танцавальнага калектыву і іншых, харэаграфія і фігуры сапраўды былі арыгінальнымі.

Неабходна дадаць, што ансамбль выступаў у Ломжы, а затым на першамайскай акадэміі ў драматычным тэатры імя Вянгеркі ў Беластоку. Тут таксама калектыў быў прыняты вельмі цёпла і высока ацэнены. У час канцэрта ў Беластоку прысутнічалі: член ЦК ПАРП І сакратар Ваяводскага камітэта ў Беластоку **Аркадзь Лашэвіч,** старшыня Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай **Стэфан Жмійка** і іншыя прадстаўнікі партыйных і дзяржаўных устаноў.

Хочацца некалькі слоў сказаць аб Смаргонскім калектыве. Паўстаў ён у 1964 годзе ў сувязі з III дэкадай беларускай народнай творчасці. Горад Смаргонь налічвае каля 10.500 насельніцтва і змог даць 100-асабовы ансамбль. Імя Агінскага прыняў таму, што непадалёк Смаргоні ў маёнтку Залессе пражываў і напісаў паланез «Развітанне з радзімай» кампазітар М. Агінскі. Калектыў паспяхова выступаў у Гродна, Мінску, а таксама ў крамлёўскім тэатры і «Звёздным гарадку». У кастрычніку 1966 г. Смаргонскі ансамбль пабываў у ГДР. А калектыў, як гэта не дзіўна некаторым з нас, складаецца з людзей рознага ўзросту і розных прафесій. Тут: настаўнікі, служачыя, лекары, вадзіцелі, вучні. І гэта ўсё складае веліч і славу невялікага раённага цэнтра — Смаргоні.

Аляксей Карпюк
фота аўтара



«Развітальная песня» ў выкананні калектыву.



 

# ШТОДЗЕСЯТЫ...

Беларусы ў Беластоку паявіліся масава каля 1950 года — да вайны іх амаль не было. Аб цяперашняй колькасці іх у гэтым горадзе агульнае панняцце даюць прыблізныя лікі тых сем'яў, імёны і прозвішчы якіх могуць сведчыць аб вясковым праваслаўным верапаходжанні, практычна ўсе гавораць па-польску ў сям'і.

Прыкладна, на тэрыторыі Адміністрацыі жылых дамоў № 11 большасць людзей (80%) жыве ў старых будынках. Разам 1.316 сем'яў, амаль усе прыбылі пасля вайны. У іх ліку далічыўся я плюс-мінус 157 сем'яў беларускага паходжання (дванаццаць працэнтаў). У спулдзельчых блёках БСМ пры Звярынецкай Шашы № 11, 13 і 15, якія маюць апінію «беларускіх», жыве чатырыста восемдзесят сем'яў, сярод якіх далічыўся 107 сем'яў беларускага паходжання (дваццаць адзін працэнт). У суседніх малых блёках № 19А і 19В пражывае 108 сем'яў — беларускага паходжання 19, пераважна, па 2 у кожным пад'ездзе (каля сямнаццаці працэнтаў). Яшчэ меншыя прапорцыі ў васемнаццацісямейных «вілях», прыкладна, № 17 і 21/1 — 3 і 2 сям'і, г. зн. 14%. Урыўковыя (лясаваныя) ўжо агляды іншых блёкаў квартала «Гарбарскай» наогул пацвярджаюць такія працэнтавыя прапорцыі.

У квартале пры вуліцы Кюры-Складоўскай № 4, 6, 8 і 10 пражывае 160 сем'яў, у іх ліку беларускага паходжання 26 (каля шаснаццаці працэнтаў). Пры вуліцы Акадэміцкай № 6 і 8 пражывае 36 сем'яў, а беларускага паходжання — 4. У блёках-вежах № 5, 5А, 9, 9А і 12А, у якіх разам жыве 195 сем'яў, беларускага паходжання далічыўся 36 (няцэлых васемнаццаць прац.). У іншых блёках гэтага квартала, дзе правёў выпадковы ўжо агляд некаторых пад'ездаў, працэнт, так званых, беларускіх сем'яў знізіўся да 10%, што пацвердзілі пасля верагодныя падлікі мясцовага стоража.

У выніку выпадковага (лясаванага) агляду 18 пад'ездаў у квартале блёкаў побач вуліцы Мальмеда Іцхока далічыўся 43 сем'яў беларускага паходжання з ліку 187 сем'яў, пражываючых у гэтых пад'ездах. Г. зн. няцэлых 24%. Падобны працэнт у выніку частковага агляду ў розных пунктах вялізнага квартала Алеі Першамая, «Оседле Марысі», а таксама аколіц вуліц Ліповай і Кастуся Каліноўскага.

Такім чынам звізітавана ўсе новазбудаваныя кварталы. Выведзеная сярэдняя працэнтавая прапорцыя абазначае, што ў беластоцкіх блёках **кожная шостая** сям'я беларускага паходжання. Гэта ў нейкім сэнсе пацвярджаюць падрабязныя персанальныя даныя ў некаторых беластоцкіх «ужэндах», дзе даволі часта працуе ад 10 да 20 працэнтаў працаўнікоў беларускага паходжання. І так, ва Упраўленні гандлю ВЗГС — 12%, у Аддзеле сельскай гаспадаркі ПРН — роўна 20%. Аднак, у адміністрацыі горада, не **звязанай з сельскай гаспадаркай ці прамысловасцю,** гэты працэнт зусім мінімальны, нярэдка роўны нулю (некаторыя аддзелы МРН, МЗБМ).

Улічыўшы тое, што плюс-мінус палова жыхароў жыве ўжо ў блёках, а даваенных сем'яў-фаміліяў у 150-тысячным Беластоку цяпер крыху менш, чым палова — можна прыблізна сказаць, што ў Беластоку кожны дзесяты жыхар беларускага паходжання. **Словам, каля пятнаццаці тысяч чалавек** — разам з работніцамі Фастаў, Сяржана, разам з жыхарамі малюткіх калоній «беларускіх хат» на перыферыях Петрашы і Багноўка, а таксама разам з аднатысячнай колькасцю часовамэльдаваных вучняў сярэдніх школ з беларускіх вёсак.

**Сакрат Яновіч**

---

**наша вёска**

# ЛУКА

Луку можна было б назваць вёскай забітай дошкамі. Гэтай пагаворачнай «дошкаю» была адлегласць ад гарадоў, а перад усім цяжкі да іх даезд. Апошнім часам, калі ў суседнія Бандары пачаў ездзіць аўтобус, «дошка», якая аддзяляла Луку ад свету, крыху надламалася. Для прыезджых мае аднак Лука нешта са своеасаблівай экзотыкі. Людзі аглядаюць прыезджага з зацікаўленнем і пэўным здзіўленнем, вёска па свайму знешняму выгляду выдаецца быць іншай ад другіх вёсак Гайнаўшчыны ці Беласточчыны.



**Прыезджага лук'янскія сяляне аглядаюць з зацікаўленнем... і са здзіўленнем.**

Найбольш характэрнай з'явай гэтага вонкавага выгляду Лукі з'яўляюцца кантрасты ў забудове. Многа тут новых мураваных, будаваных па-сучаснаму дамоў, ёсць аднак многа і такіх. якія памятаюць яшчэ цара Мікалая — нізенькія, крытыя саломай, з невялікімі вокнамі. Большасць усё ж такі лук'янскіх хатаў «сярэдняга ўзросту» — драўляныя, крытыя чарапіцаю, упрыгожаныя мноствам розных, рэзаных у дрэве закрутасаў. Перад усім, аднак, характэрнай для Лукі з'яўляецца яе забудова. Страшэнная цесната. На адным вузкім панадворку па трох гаспадароў; перамешаны з сабою ў страшэнным беспарадку хаты, гумны і хлявы. Забудова такая вынікае з даволі асаблівага лук'янскага асадніцтва — няма тут сяліб, ні агародаў, зямля ў цераспалосіцы, і кожны гаспадар будуецца на сваёй вузкай палосцы. Ды наогул трэба сказаць, што гаспадаркі ў Луцэ слабыя. Гаспадары маюць тут па 4—5 гектараў слабой зямлі ў цераспалосіцы. Пры сучасных патрэбах пражыць з яе цяжка. Таму жыхары Лукі заўсёды ахвотныя да дадатковых заработкаў. Летам прыязджае сюды самаход нават з адлеглага каля 60 кіламетраў Беластока і забірае ахвотных да працы на беластоцкіх будоўлях. Іншыя даязджаюць да Гайнаўкі, Белавежы, яшчэ іншыя краўцуюць, шаўцуюць і... лепяць гаршкі з гліны. Гаршчанае рамяство мае ў Луцэ доўгую і слаўную гісторыю. Перад вайною было тут звыш 20 гаршчаных майстраў, якія развозілі свой тавар па адлеглых вёсках і кірмашах. Зараз асталося іх толькі двух. Перажывалі яны нядобрыя для гаршчачнікаў часы толькі дзякуючы адлегласці Лукі і суседніх вёсак ад гарадскіх цэнтраў, дзе можна купіць таннейшыя і прыгажэйшыя вырабы гарадской прамысловасці. Зараз для тых, хто астаўся пры сваёй прафесіі, не бяда — ёсць так званая «Цэпэлія», якая скупоўвае гаршкі па даволі высокіх цэнах для гарадскіх снобаў.

Нягледзячы, аднак, на тое, што Лука — вёска бедная і адлеглая ад Гайнаўкі і Беластока, бурліць у ёй жыццё даволі звычайна, гэта значыць па-сучаснаму. Працуе сельскагаспадарчы гурток (хаця і не так эфектыўна, як у іншых вёсках), жанчыны арганізуюць курсы шыцця, варэння, рабення каўбас. Праз два гады ўлетку арганізаваны быў у вёсцы дзіцячы сад. Моладзь арганізуе мастацкую дзейнасць, спявае на вясковай сцэне песні, ставіць гумарыстычныя п'есы. Словам — жыццё не мінае і ўбогай наднарвянскай вёскі Лукі.

Калі чагосьці не стае для культурнай і асветнай дзейнасці ў Луцэ, дык добрага памяшкання. Школа ў вёсцы ў звычайнай, сялянскай хаце, дзетвара не мае дзе вучыцца, няма што і гаварыць аб памяшканні для моладзі, аб клубе для старэйшых. Сяляне хацелі будаваць школу, ды няма дзе. У Луцэ колькі зямельных палосак, толькі і хатаў, школа не мае свае палоскі і не мае свайго месца ў вёсцы. Астаецца тады толькі чакаць на камасацыю, якая развяжа многа лук'янскіх клопатаў.

**Ул. Паўлючук**



**Характэрнай рысай Лукі з'яўляюцца кантрасты новага і старога.**

---

**XX ГОД РСВ «Праса»**

## „Газета Беластоцкая"

Орган Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Пачала выходзіць у 1951 годзе і ад таго часу яе тыраж усё расце. Зараз асягнуў у сярэднім 105 тысяч. Аддзелы ў рэдакцыі: эканамічны, рэпарцёрскі, сельскагаспадарчы, сувязі з чытачамі, грамадска-культурны (выдае тыднёвы «Магазін»), спартыўны, дэпэшова-тэхнічны, спецыялісты па ўнутранай партыйнай тэматыцы. Выходзіць чатыры тэрэновыя мутацыі «Газеты».

У рэдакцыі працуе 30 журналістаў.

Галоўным рэдактарам ад 1956 года з'яўляецца Казімеж Новак. Намеснік галоўнага рэдактара — Мечыслаў Хая — з «Газетай» рабіў яе першыя крокі, выдаваў яшчэ пробныя нумары. Сакратар рэдакцыі — Рышард Краська.

«Газета Беластоцкая» знаходзіцца ў 16-тым годзе свайго бурнага і плённага жыцця. З выпадку 15 год служэння ваяводству атрымала яна Адзнаку Тысячагоддзя.

---

## „Ніва" і школа

Школьнікам, настаўнікам і асветным уладам добра вядома, што «Ніва» прыносіць незаступныя карысці ў навучанні беларускай мовы ў V і VIII класах. А гэта таму, што ў «Ніве» і «Зорцы» друкуюцца чытанкі з падручнікаў, якія яшчэ не выйшлі з друку. Гэта адзіны школьны дапаможнік, і таму ўсе вучні, абсалютна ўсе, павінны мець гэтыя матэрыялы. Але не ўсе іх маюць. І гэта дрэнна. А ў красавіку такія школы як Лянева і Курашава зусім не мелі «Нівы». Вучні і настаўнікі былі пазбаўленыя патрэбных матэрыялаў для навучання беларускай мовы, тых матэрыялаў, з якіх кураторыя загадала школам абавязкова карыстаць. Чыя гэта віна, што ў красавіку ў гэтых школах не была зроблена падпіска, мы дакладна не ведаем. Але факт астаецца фактам, што матэрыял згодна з праграмай у V і VIII класах не прысвоены вучнямі. І школьнікі вельмі многа страцілі.

(мх)

---

А. Баршчэўскі, В. Швед

# Дружба і праца

**Хрэстаматыя для VIII кл.**

**АПАВЯДАННЕ ПРА ГУМАНІЗМ**

**Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.**

Так Яфім Сцяпанавіч ведаў гэтага чалавека. Нездаровы старэчы тлушч, сівізна і бледнасць твару не перашкаджалі бачыць здаўна знаёмыя рысы. Гэта быў ён Леанід Паўлавіч Клёнскі. Ён ляжаў непрытомны паралізаваны цяжкой хваробай. Яфім Сцяпанавіч павінен быў яго выратаваць. Ён стаяў моўчкі, углядаючыся ў памярцвелы твар гэтага чалавека, і панура слухаў тлумачэнні ардынатара. Некалькі ўрачоў, сярод якіх былі і яго вучні, шапталіся воддаль. Яфім Сцяпанавіч вырашыў, што дыягназ правільны. Ён адвярнуўся ад хворага і сказаў:

— Падрыхтуйце... Я пайду, адпачну крыху.

Ён пайшоў у сумежны пакой і пачаў мыць рукі.

...Гэта было даўно, трыццаць гадоў таму назад. Малады ўрач земскай бальніцы дружыў з маладым інжынерам вялікага металургічнага завода. Леанід Паўлавіч Клёнскі быў багатым чалавекам, жыў шырока і служыў толькі таму, што хацеў «быць у народзе». Ён быў вольнадумцам і за гэта трапіў у правінцыю. Мясцовыя зубры коса паглядалі на прыгожага і багатага малойчыка, які красамоўна разважае аб альтруізме, гуманізме і іншых высокіх рэчах. На гэтай глебе і пачалася дружба інжынера і ўрача, які нядаўна скончыў універсітэт.

— Калега! — гаварыў Клёнскі, — пачуццё гуманізма ёсць вышэйшая адзнака культуры. Гэтая рыса пасляхова развіваецца і ў гэтым заключаецца прагрэс чалавецтва.

— Гледзячы які гуманізм... — адказваў Яфім Сцяпанавіч. — І гледзячы, хто яго выказвае і для каго выказвае.

Ён не згаджаўся з павярхоўнымі інжынерскімі рацыямі, які разважаў аб чалавецтве наогул, і яны спрачаліся і нават злавалі адзін на аднаго.

Але праз тыдзень Яфім Сцяпанавіч чысціў бензінам свой сурдут і ехаў да інжынера за пятнаццаць вёрст па каляістай, немагчымай дарозе. Дружба была, аднак, нядоўгай і скончылася адным навагоднім вечарам.

Яфім Сцяпанавіч быў у ліку гасцей на вечары ў інжынера. Ён сядзеў у кутку, стараючыся не паказваць сваіх парадкам-такі зношаных бацінак, і рабіў выгляд, што цалкам захоплены музыкай пышнай дачкі суседняга памешчыка. На самай жа справе яму было няёмка. Госці інжынера, людзі добра апранутыя, адкормленыя, недалёкія і самаздаволеныя, былі яму чужымі, і ён быў для іх чужы. Яфім Сцяпанавіч шкадаваў, што прыехаў, і суцяшаўся толькі думкай, што будзе добрая вячэра. У доктарскім целе жыў студэнцкі апетыт. Але да вячэры было яшчэ далёка. На шляху да яе была абшырная музычная праграма. Доктару надакучыла сядзець, ён выйшаў на калідор, і зараз жа да яго падышла жанчына.

— Доктар, даражэнькі, я вас прашу, — трывожна зашаптала яна, азіраючыся. — Я сястра пакаёўкі пана інжынера.. Працую тут на фабрыцы... Доктар, у мяне сын памірае, будзьце ласкавы, дапамажыце... Тут недалёка, у бараках... Ратуйце, даражэнькі, пашкадуйце бедных людзей... Сем гадкоў яму...

Жанчына ўсхліпнула. Яфім Сцяпанавіч, моўчкі і спяшаючыся, пачаў апранацца. Праз некалькі хвілін ён хутка ішоў па дарозе, і за ім спяшалася жанчына, ахопленая трывогай маці. Калі Яфім Сцяпанавіч адчыніў дзверы, то нейкі момант затрымаўся на парозе, не адважваючыся ступіць наперад. Душнае, цёплае паветра, цяжкі пах густа ішоў яму насустрач.

— Зачыняй дзверы! — крыкнулі з барака.

Калі доктар ішоў міма нар, ад падушак узнімаліся ўскалмачаныя галовы. Людзі сонным, затуманеным і раўнадушным поглядам сустракалі яго і тут жа засыналі зноў. Гэта быў зусім інакшы свет, чым той, дзе ў блакітнай інжынерскай гасцінай спявае абшырная памешчыцкая дзева.

— Вось тут... — сказала жанчына. — Наш фабрычны доктар казаў, што трэба аперацыя, што яго трэба ў земства завезці... А мяне з фабрыкі не пушчаюць.

Доктар нахіліўся і ўбачыў у кучы лахманаў васкова-жоўты дзіцячы твар. Ён пачаў агляд. Праз некалькі часу Яфім Сцяпанавіч, спяшаючыся, ухутваў дзіцянё ў лахманы, якія пападаліся пад руку.

— Хутчэй, — гаварыў усхваляваны ўрач. — Хутчэй, аперацыю неадкладна... Мы яго выратуем...

І ў наступную хвіліну ён ужо бег па дарозе з дзіцянём на руках.

Калі ён увайшоў у калідор інжынерскай кватэры, са сталовай даносіўся голас Клёнскага:

ТАЙНЫ НАШАГА ВЕКУ

# Іншапланетныя ракеты?

Першы раз пабачылі іх у маі 1946 года. Нейкія невядомыя людзям лятальныя апараты ў форме дыскаў паявіліся над Зямлёю. Было ўстаноўлена, што яны разгортваюць вялікую хуткасць. Наглядальнікі назвалі іх звычайна **«лятальнымі талеркамі»**, а вучоныя — **Непазнанымі лятальнымі аб'ектамі — НЛА.** Амерыканскі астраном Д. Мензел, які напісаў кніжку «Лятальныя талеркі», гаворыць, што над вяршынай Сакрамента пабачыў два дзіўныя туманныя дыскі, якія свяціліся грубаватым ззяннем. Другім разам супольна з сябрамі астраномамі назіраў за начным небам. Раптам па небе пранёсся ярка-зялёны вогненны шар. Ён ляцеў на вышыні прыкладна 100 — 130 кіламетраў. У абодвух выпадках вучоныя не маглі высвятліць прыроды гэтага яўлення.

А гэты здымак быў зроблены з барта пасажырскага самалёта на шляху Лондан-Манчэстэр у Англіі. Прадмет гэты паявіўся недалёка ад самалёта. Здымак зрабіла адна з пасажырак. Пасля некалькіх хвілін прадмет расплыўся ў паветры.

Штосьці падобнае здарылася амерыканскім лётчыкам. «У жніўні 1947 года, — гаворыць адзін з іх, — пабачылі мы вялікае, па форме падобнае на цыгару, цёмнае цела апарата, якога сілуэт добра зарысоўваўся на фоне вячэрняга неба. Гэты апарат ляцеў проста на наш самалёт. Мы крута павярнулі ўбок, каб не дапусціць да сутычкі з ім. Цёмны прадмет пранёсся побач. Мы паспрабавалі дагнаць яго, але гэта нам не ўдалося і праз чатыры мінуты гэты загадкавы апарат недзе прапаў».

Іншым разам — у ліпені 1948 года — амерыканскія лётчыкі выявілі, «...бяскрылы самалёт цыгарападобнай формы. Ён ляцеў проста на нас. Мы павярнулі ўлева, тады той самалёт задраў нос угору і ўзбіўся ў воблакі, выкінуўшы з сябе магутны сноп агню. Наш «ДС-3» аж закалыхаўся».

Ніколі не ўдалося амерыканскім лётчыкам дагнаць НЛА. Такія спробы заканчваліся часам гібеллю самалётаў. І так, 7 студзеня 1948 года загінуў лётчык Т. Мантэль. У апошнюю хвіліну ён заявіў па радыё: «Іду на збліжэнне... Гэтая штука на выгляд — металічная і аграмадных размераў».

Выдатны амерыканскі астраном Клайд Томба, які ў 1930 годзе выявіў планету Плутон, расказвае, што 20 жніўня 1949 года разам са сваёй сям'ёй назіраў за палётам дзіўных праставугольнікаў, якія свяціліся слабым жоўта-зялёным колерам. «За некалькі тысяч гадзін, — гаворыць ён, — якія правёў я назіраючы начное неба, не давялося мне бачыць штосьці больш дзіўнага.

Потым паведамленні аб НЛА пачалі паступаць усё часцей. За імі назіралі ў Аргенціне, Англіі, Францыі, Партугаліі, Японіі, Індыі і ў другіх краінах. Савецкі вучоны кандыдат фізіка-матэматычных навук А. Гарэлік заяўляе, што НЛА былі выяўлены таксама савецкімі радыёлакацыйнымі ўстаноўкамі.

Ці ж бы тады іншапланетныя ракеты вялі разведку нашай старой Зямлі?

Амерыканскі астраном-аматар **Адамскі** ўпэўнена заяўляе, што Зямлю наведваюць іншапланетныя жывыя высокаразумныя істоты. Напісаў ён ужо нават некалькі кніжак аб тым, як ён, Адамскі, вёў перагаворы з імі, а нават аб тым, як гэтыя іншапланетчыкі забралі яго з сабой на... Венеру і прывезлі назад.

Сур'ёзныя вучоныя, вядома, сенсацыйныя заяўленні Адамскага лічаць звычайнай фантастыкай. Адначасова аднак заяўляюць, што яны не ў сілах растлумачыць прыроду і сутнасць гэтых лятальных талерак. Пакуль што розныя вучоныя даюць некалькі тлумачэнняў, якія да канца не растлумачваюць тайнай НЛА. Тлумачэнне першае: НЛА — фантастыка і выдумка. Яму пярэчаць назіранні сур'ёзных вучоных. Тлумачэнне другое: НЛА — гэта зрокавыя аптычныя ілюзіі падобныя да міражаў на пустыні. Так цвердзіць аўтар кніжкі «Аб лятальных талерках» Д. Мензел. Ён аднак не ў сілах растлумачыць, адкуль яно бярэцца ды чаму суправаджаюць паяўленню НЛА перашкоды ў радыёсувязі. Тлумачэнне 3: НЛА — тайныя лятальныя апараты нейкай зямной краіны. Гэтыя меркаванні выказвалі ваенныя ЗША, асабліва ў першы перыяд назірання за НЛА. Яны проста сцвярджалі, што гэта Савецкі Саюз запускае нейкія звышсучасныя самалёты або ракеты. Нават тады рэдка хто гэтаму верыў. Тлумачэнне 4: НЛА — невядомае з'яўленне прыроды. Гэтае тлумачэнне мае шмат старонннікаў, бо ў яго аснове тэзіс, што магчыма незадоўга можна будзе выявіць прыроду НЛА. Тлумачэнне 5: НЛА — апараты іншапланетнай, высокаразвітай цывілізацыі. Вучоныя вельмі скептычна адносяцца да гэтай гіпотэзы. Аднак зусім яе не адкідаюць. Тут яны ўказваюць на тое, што НЛА развіваюць такую хуткасць, якой не магла б вытрымаць ніводная жывая істота на зямлі. З другога боку назіранні паказваюць, што лятальныя талеркі найчасцей паяўляюцца, калі планета Марс набліжаецца да Зямлі.

Загадак астаецца яшчэ многа і няма надзеі, каб іх хутка вырашыць.

**Бельгія, раён Намюра. 5.VII. 1965 г. Бліскаючы ў сонцы сярэбранага колеру аб'ект набліжаўся з вялікай хуткасцю. Раптам ён затармазіў хуткасць і тады выпадковы назіральнік зафіксіраваў яго на плёнцы. Спецыялісты потым падлічылі, што гэты аб'ект меў дыяметр (срэдніцу) не менш 12 метраў і знаходзіўся на вышыні 1500 метраў.**

БЕЛАРУСІЯНА

## Аб беларускім заканадаўстве

У часопісе Дзяржаўнай Рады ПНР «Рада Нарадова» № 15 ад 1967 года змешчана артыкул Ежы Старосцяка — **«Адміністрацыйнае заканадаўства Беларусі 1966 года».**

Старосцяк, між іншым, піша:

«Знаёмячыся... са зместам «Збора законаў, указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР — пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў Беларускай ССР» за 1966 год... ...на першы план трэба высунуць **пастановы і распараджэнні адносна рэарганізацыі кіравання народнай гаспадаркай і спрашчэння працэсаў арганізацыі прадукцыі.** Можна прытым заўважыць, што ў праведзенай у гэтым напрамку новай прававай рэгуляцыі асаблівую ўвагу звяртаецца на шанаванне самастойнасці розных гаспадарчых адзінак. Відавочнымі з'яўляюцца клопаты пра тое, каб цэнтральная інгерэнцыя не аслабляла ініцыятывы гэтых адзінак, каб з прычыны гэтай інгерэнцыі не было шкоды тым, праца якіх складаецца на здабытак».

Старосцяк досыць падрабязна разглядае беларускае заканадаўства за 1966 год. (С.Я.)

Цікавыя кніжкі

## Аб Беласточчыне

У мінулым годзе надрукавана ў Мінску кніжку Генадзя Кісялёва — «З думкай пра Беларусь». Гэта кніжка аб Кастусю Каліноўскім і Францішку Багушэвічу. У гэтай кніжцы ўспамінаецца пра школу ў Мастаўлянах (Беластоцкі павет), якая названа імем Кастуся Каліноўскага. На франтоне школы ганаровая табліца на дзвюх мовах: польскай і беларускай. Кастусь нарадзіўся ў Мастаўлянах у 1838 годзе.

Успамінаецца таксама і пра Дом культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку, на ўрачыстым адкрыцці якога быў сакратар Цэнтральнага Камітэта ПАРП У. Віха.

У кніжцы вылічаны некаторыя зборнікі і календары БГКТ, у якіх наш паэт Алесь Барскі пісаў аб Кастусю Каліноўскім.

Варта дадаць, што ў Беластоку адну з цэнтральных вуліц — побач Дома партыі — названа імем Кастуся Каліноўскага. Час падумаць хаця б аб малым музеі нашаму герою. (ся)

Юльян Сямёнаў

# Маёр Віхор

**«КОЛЯ»**

Пад раніцу Коля выйшаў на палявую дарогу. Каля скрыжавання стаяла маленькая каплічка. На чыста пабеленай сцяне быў прыбіты вялікі карычневы крыж з распяццем. На паліцы, пад крыжам, стаяла шклянка. У шклянцы дагарала свечка.

«Заграніца, — раптам падумаў Коля. — Я за граніцай».

Коля ўздрыгнуў, пачуўшы за спіной кашаль. Павярнуўся. У дзвярах стаяла бабуля. Яна прыкрывала рукою вялікую, толькі што запаленую свечку.

— Добры дзень, пану, добры дзень.

— Добры дзень, пані, — сказаў Коля.

Бабуля выкінула агарак са шклянкі, што стаяла пад распяццем, і ўмацавала ў ёй новую свечку. Вецер лізнуў полымя, яно хлопнула і знікла. Коля дастаў запальнічку, запаліў кнот.

— Дзякую пану.

— Няма за што.

— Пан не паляк?

— Я рускі.

— Гэта адчуваецца па вашай гаворцы. Вы што, з лагера ў Мядовых Прышліцах?

— Не. А там які лагер?

— Там жывуць тыя рускія, што ўцяклі з немцамі. Туды кожны дзень прыходзіць шмат людзей.

— А мне сказалі, што гэты лагер пад Рыбнай...

— Пану сказалі дрэнна.

— Вы не пакажаце, як туды ісці?

— Пакажу, чаму ж не паказаць, — адказала бабуля. — Пойдзем.

Коля дастаў з кішэні пачак нямецкіх галетаў і сказаў:

— Вось, мамаша, вазьміце. Унукам.

— Дзякую пану, — адказала бабуля, — але мы не ямо нямецкага...

Яны ішлі з бабуляй па дарозе, якая вілася сярод палёў. Здалёк, на поўдні, віднеліся Карпаты. Горы былі ў бэзавай ранішняй смузе. Калі Коля і старая падымаліся на ўзгоркі, адкрываўся велічны агляд: месцы былі прыгожыя, узгоркаватыя, палі разрываліся сінімі лясамі, тарчалі вострыя дахі касцёлаў, яны выглядалі бы цацкі, відаць іх было за многа кіламетраў, таму што паветра было празрыстае.

— Бальшавікі такія страшныя, што пан уцякае ад іх? — спыталася старая.

— Я шукаю сваю нарачоную. Яна ўцякла з бацькамі. Усе ўцякалі, і яны ўцяклі.

Старая глянула на Колю і сказала:

— Пан ведае, што ў яго парваны пінжак на спіне?

— Ведаю, — адказаў Коля, хоць ён не ведаў пра гэта, — відаць парваў у лесе.

— Немцы любяць ахайных паноў, — сказала старая і ўважліва паглядзела на Колю.

Ад дарогі адыходзіла трапінка да маленькай хаткі, што стаяла пад лесам.

— Мне сюды, — сказала старая. — Да пабачэння, пану.

У Мядовых Прышліцах Колю дапытваў стары немец у памятай амерыканскай форме. Ён матаў яго гадзін чатыры. Потым загадаў падрабязна апісаць сваю гісторыю на паперы. Забраў яго аўсвайс і замкнуў Колю ў малым пакойчыку.

Коля ведаў пра лагеры, у якіх групаваліся тыя, што ўцяклі з немцамі. Такія лагеры пачалі стварацца нядаўна. Цякучасць у іх была вялікая. Праверка тут насіла характар павярхоўны: немцы не паспявалі толкам займацца яўнымі ворагамі, не то што прыслужнікамі.

Коля разлічваў, што са сваімі дакументамі ён напэўна павінен прайсці праверку. Пасля праверкі ён разлічваў атрымаць ад немцаў накіраванне на працу. А гэта вельмі важна для разведчыка.

«А можа трэба было ўсё ж пачакаць два дні, а потым ісці на сустрэчу да касцёла? — думаў Коля. — Але гэта надта безініцыятыўнае вырашэнне. З маёй польскай мовай было б неразумна два дні акалачвацца па тутэйшых месцах без сувязі. А сядзець у лесе азначала б у пустую праводзіць час. А так я выкарыстаў шанц. Усё за мяне. І няма чаго непакоіцца. Трэба думаць аб тым, як жыць далей. І ўсё. Няма чаго страшыць самога сябе. Разведчыка губіць не рызыка і не выпадак. Разведчыка можа згубіць страх».

Яго пратрымалі ў замкнутым пакойчыку дванаццаць гадзін. Стары афіцэр, той, што яго дапытваў, сказаў:

— Цяпер ідзіце ў барак, можаце спаць. Мы правяраем вашы дакументы. Нічога не зробіш: вайна ёсць вайна.

Вартаўнік давёў Колю да калючага дроту, а там пусціў яго аднаго.

Калі Коля ішоў праз цёмны двор да барака, над уваходам у які гарэў сіні ліхтарык, нехта выйшаў з іншага барака, які стаяў старчаком да таго, куды ішоў Коля. На ганку, каля сіняга ліхтарыка, Коля спыніўся, каб закурыць. І раптам ён пачуў чыйсьці ціхі знаёмы голас:

— Санька!

Коля ўрос у ганак, схаваў у кішэнь запальнічку і, не аглядаючыся, пайшоў у барак.

— Сашка, — паўтарыў голас з цемры. — Ты што, зглузду з'ехаў?

Да Колі падышоў чалавек — малады яшчэ, але з сівымі валасамі. Коля ляніва глянуў на чалавека і сутаргава глынуў камяк у горле: перад ім стаяў Сцяпан Багданаў, яго маскоўскі сябра з трыццаць сёмай кватэры.

**«АНЯ»**

Яна дабралася ў Рыбну на трэці дзень, пад вечар. Аня вываляла ў дарожнай пылі сваю шарсцяную кофту, пабрудзіла граззю твар і, сагнуўшыся, як хворая, пускаючы сліну — да прыдуркаватых немцы не прыставалі, — памалу прайшла праз вялікую вёску: спачатку кружной дарогай, па ўскраінных вулачках, а потым праз цэнтр, міма касцёла.

Аня вышла з Рыбны і рушыла праз peралесак на паўднёвы ўсход — да горада карпацкіх лясоў. Яна вырашыла пераначаваць у лесе, недалёка ад Рыбны, каб паслязаўтра ісці на плошчу перад касцёлам: чакаць Віхра ці самой спрабаваць выйсці на сувязь з Мухай, — выйсця не было, цэнтр ча-

# ТРЫБУНА чытачоў

## НЕПАТРЭБНАЯ ЭКСКУРСІЯ

25 сакавіка 1967 г. адбылося ў Гайнаўцы шкаленне гаспадароў, якія займаюцца гадоўляй кныроў. Канферэнцыйная зала Прэзідыума павятовай рады нарадовай была запоўнена жывёлагадоўцамі. Ваяводскі кіраўнік да спраў гадоўлі выясніў слухачам, колькі ўлады памагаюць гаспадарам у гэтай дзялянцы і як трэба абыходзіцца і даглядаць кныроў. Потым заявіў, што некаторыя могуць паехаць аўтакарам у вёску Нова Воля ў Беластоцкім павеце і пабачыць свінарнікі ў перадавых гаспадароў. Ахвотных было многа, але аўтакар забраў толькі 35 чалавек.

Заехаўшы на месца прызначэння, першы гаспадар і яго жонка аказаліся вельмі ветлівымі. Агледзелі мы ўсё без перашкоды. На нашыя пытанні ў справе гадоўлі адказвалі ахвотна. У Новай Волі яшчэ некалькі гаспадароў займаюцца гадоўляй кныроў, таму гэты гаспадар павёў нас далей. У наступнага гаспадара спаткаліся мы з непрыемнасцю. Некаторыя аглядалі свінарнік, а некаторым слабенькі дзядуля паказваў каровы. Затым прышла яшчэ не надта старая жанчына і пачала лямантаваць на ўсё горла, а потым выганяць нас з панадворка. Усе мы паціснулі плячыма і без слова адышлі. Наступны гаспадар аказаўся яшчэ «лепшы». Заявіў ён, што не хоча ўпусціць нас да хлява і не пакажа сваю прыкладную абору. Толькі выпусціў ён на падворак 2 кныры. Яны на нас не зрабілі ніякага ўражання, таму што ў нас ёсць свае і то значна лепшыя. Адпала нам ахвота да далейшых прыгод. Падзякаваўшы нашаму правадыру з Беластока, паехалі мы назад дахаты. І так, паездка ў Новую Волю не была падрыхтаваная, і апрача непрыемнасцей мы нічога карыснага не мелі.

**Валя Янцэвіч**
Скупава

## У ПАСПУЛДЗЕЛЬЧЫХ БУДЫНКАХ

У Рэдутах на Бельшчыне стаяла пустая і крыху знішчаная паспулдзельчая абора. Але ў адной палавіне гэтага будынка сельскагаспадарчы гурток зрабіў гараж для сваіх машын. У другой палавіне зараз склад на саламяныя каробкі, якія тут прымаюцца ад сялян навакольных вёсак. Непадалёк гэтай аборы была ў мінулым спулдзельчая канцылярыя. Да мінулай зімы гэта памяшканне пуставала. Жыхары вёскі, а перш за ўсё моладзь узялася за работу. Супольна ўлажылі новую падлогу, наладзілі сцены, дзверы, вокны і зрабілі тут святліцу. Купілі мэблю, ігры, тэлевізар. Цяпер ёсць дзе сабрацца і правесці культурна час.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

---

каў радыёсеанса.

Яна сышла з дарогі і праз скошанае, жоўтакарычневае поле рушыла да лесу. Углыбіўшыся на паўкіламетра ў лясны гушчар, яна вырашыла спыніцца на начлег. Але затым прайшла яшчэ з паўкіламетра — агонь кастра могуць убачыць з дарогі, а ў глыбіне лесу можна распаліць вялікі касцёр, і грэцца каля яго ўсю ноч, і скіпяціць вады ў маленькім нямецкім кацялку, а потым развесці ў ім канцэнтрат і зрабіць вянгерскі гуляш.

...Касцёр разгарэўся адразу — выстраліў у неба белым шыпеннем, потым разышоўся, затрашчаў чырвонымі іскрамі навокал сябе, а потым супакоіўся, захлопаў жоўтымі рукамі і пачаў грэць Аню. Яна паварочвалася да кастра па-таежнаму: спачатку левым бокам, потым спіной, потым правым бокам, а ўжо потым, замружыўшыся, каб не псаваць вачэй, павярнулася да кастра тварам. Аня сабрала сухога ламачча, прынесла яго да кастра і зрабіла сабе падсцілку. Лягла, нацягнулася, падсунулася яшчэ бліжэй да кастра і адчула, што вось-вось засне. Яна прымусіла сябе адкрыць вочы і паглядзець на касцёр: ці хопіць на ўсю ноч. Яна зрабіла сабе сібірскі касцёр: знашла зваленую ёлку, зрэзала цесаком сукі, прынесла бярозавай кары і падпаліла сухі звалены пень. Трэба толькі праз кожныя тры гадзіны прачынацца і крыху падсоўваць наперад ёлку, каб яна роўна абгарала, а не пузырылася агеньчыкамі ўздоўж па ўсім пню.

Аня пасунула драўніну; навокал заіскрыла, полымя, на хвіліну замерла, а потым шуганула з новай сілай. Аня накрылася плашчом і адразу ж заснула. **(Працяг будзе).**

## НАША ПОШТА

Ваня з Бельшчыны. — Тэхнікум сельскай гаспадаркі ў Беластоку не прымае кандыдатаў з Бельскага павета. Сельскагаспадарчая школа знаходзіцца ў Бельску.

Галіна К. з Гайнаўскага пав. — Тэхнікум эканамічнае, Беласток вул. Варшаўская 63. Прашэнні складаць да 20 мая. Экзамены па прадметах: польская мова, арыфметыка, геаграфія.

Міхал з Беластоцкага павета. — Калі будзеш вучыцца ў тэхнікуме, атрымаеш звальненне ад вайсковай службы на час сканчэння школы.

«Н.» — Кандуктарскіх школ няма. На прыняццё да працы праводзяцца толькі 2-тыднёвыя курсы. Цяпер пакуль што няма набору. Аднак мо ў маі, а мо пазней мае быць набор на кандуктарак. Дакладнага тэрміну нам не падалі. Пастарайся даведацца ў ПКС-е пазней.

Мікалай з Бельшчыны. — Просім падаць дакладны адрас, пастараемся адказаць.

## СПАТКАННІ З АФІЦЭРАМІ

Ад 15 да 17 красавіка афіцэры Войска Польскага правялі спатканні з насельніцтвам вёсак Гайнаўшчыны, на якіх у сваіх выступленнях гаварылі аб дзейнасці ППР, аб Войску Польскім і аб 50 гадавіне Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі. І так, адбыліся спатканні: у Нараўцы, Луцэ, Пасеках, Тарнопалі, Семяноўцы і іншых вёсках.

**В. Б.**
Гайнаўка

## ТППР У ШКОЛЕ

Гурток Таварыства польска-савецкай дружбы (ТППР) пры пачатковай школе ў Лубіне Касцельным (Бельскі павет) вядзе ажыўленую дзейнасць. Да старой ўжо традыцыі ў школе залічваецца перапіска школьнікаў гэтай школы са школьнікамі ў СССР. Члены гэтага гуртка рыхтуюць сценгазеты і фотавыстаўкі, якія паказваюць дасягненні Савецкага Саюза ў галіне тэхнікі, касманаўтыкі, культурнага і гаспадарчага жыцця. Падчас Ленінскіх дзён школьнікі падрыхтавалі ўрачысты «апэль». Рыхтуюцца яны зараз да «апэлю», які будзе прысвечаны 50-ай гадавіне Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі.

У сувязі з гэтай знамянальнай датай школьнікі грамадскім чынам навокал прыпынку ПКС усё ўпарадкавалі, зрабілі клумбы і пасадзілі кветкі.

**Ёлянта Часноўская**
Лубін Касцельны




**Дарагое Сэрцайка!**

Маю 16 год. Жыву ў вёсцы на Гайнаўшчыне. У 1965 годзе я закончыў пачатковую школу. Хацеў бы пайсці вучыцца ў гурнічую школу. Але не ведаю адрасу. Прашу, паінфармуй мяне, Сэрцайка, у гэтай справе.

За параду буду вельмі ўдзячны.

Коля з Гайнаўшчыны

Амаль усе шахты ў Польшчы маюць уласныя прызакладовыя школы: засаднічыя і тэхнікумы, якія рыхтуюць да прафесіі рахцёра. Не пішаш, у якім горадзе хацеў бы ты вучыцца, а падаць усе адрасы шахцёрскіх школ немагчыма. Таму просім, напішы нам, у якім горадзе ты хацеў бы вучыцца і ці ў засаднічай ці ў тэхнікуме. Тады падамо табе пісьмова адрас гэтай школы. Можаш таксама пісьмова звярнуцца да Zjednoczenia Przemysłu Węglowego w Katowicach, дзе атрымаеш і адрас школы і ўмовы прыняцця.

Увага!

Пётр з Гайнаўшчыны, Валодзя з Сакольшчыны, Коля з Беласточчыны!

Аб Гуфцах працы прачытайце ў «Ніве» № 18(583) 1967 г. на 4 старонцы п.з. «Маладым — навука і праца».

Ваня з Бельшчыны, Галіна К. з Гайнаўскага павета, Міхал з Беластоцкага павета, «Н.», Мікалай з Бельшчыны — адказаў шукайце ў «Трыбуне чытачоў» на 7 стар. гэтага ж нумара «Нівы».

Сэрцайка

## КУЛІНАРНАЯ АДУКАЦЫЯ



Нядаўна ў Грабаўцы (Гайнаўскі павет) закончыўся курс гатавання і пячэння. Каля 30 асоб прысвойвалі кулінарныя веды. Выкладчыкам была Леакадзія Зароўская. 22.IV. адбылося ўрачыстае заканчэнне курса, на якім можна было пабачыць і паспрабаваць падрыхтаваныя блюды праз удзельніц кулінарнай адукацыі.

Тэкст і фота
**Уладзімір Несцярук**
Грабавец

## 1-ГА МАЯ Ў 1939 ГОДЗЕ

**Адсвяткавалі мы першамайскае свята ў дастатку і радасці. Жывецца нам добра. Прапала галеча на вёсцы. І вось адзначаючы 1-шы Май многім жыхарам Боўтрык успамінаецца 1-шы Май 1938 года. Тады ўлады забаранялі адзначаць свята працоўных мас. Паліцыя абстаўляла вёскі і не дапускала да паходаў. Але сяляне Боўтрык пастанавілі даказаць сваю смеласць, рашучасць і арганізаванасць. Пад кіраўніцтвам мясцовага дзеяча Міколы Боўтрыка сабраліся на сярэдзіне вёскі. Тут быў зборны пункт. Мікола Боўтрык выступіў з прамовою, зместам якой быў заклік сялян да барацьбы з буржуазійнай уладай. Сяляне прымалі яго словы з захапленнем, якія «запальвалі» іх да ахвярнасці змагання з сацыяльным і нацыянальным прыгнётам. Усе да Міколы Боўтрыка адносіліся з пашанай, з вераю ў яго правільныя доказы. На сцяне школы падчас яго прамовы вісеў на чырвоным палотнішчы надпіс «Хай жыве 1-шы Мая, свята рабочых і мужыкоў». Надпіс гэты быў упрыгожаны зялёнымі галінкамі. Вышэй над надпісам лапатаў на лёгкім ветры велізарны чырвоны сцяг. У гэты час кожны стаяў з заціснутымі зубамі і кулакамі, з нянавісцю да санацыі. Пасля прамовы Міколы Боўтрыка сфармавалася доўгая калона сялян і з рэвалюцыйнымі песнямі рушыла да адлеглага мястэчка Міхалова. Па дарозе да гэтай калоны далучыліся сяляне з іншых вёсак. Паход гэты затрымаўся ў Рыбаках, а гэта таму, што дайшлі весткі, што ў Бандарах стаіць паліцыя. У разведку былі пасланы дзве жанчыны, якія праверылі і пацвердзілі, што сапраўды ёсць там паліцыя. Тады Мікола Боўтрык вырашыў абмінуць Бандары і пайсці палямі за вёскай. Калі пабачылі паліцыянты паход праз поле, хутка паімчалі да дэманстрантаў. Дагнаўшы іх, загадалі вярнуцца назад і разысціся. Але паход далей ішоў з песняю. Паліцыя стала біць гумовымі палкамі боўтрыцкіх сялян. У адказ на гэта яны яшчэ галасней пачалі спяваць. Паліцыя пераканалася, што не ў сілах яна павярнуць паход, адступіла і адышла. А дэманстранты-пераможцы пайшлі далей.**

**Мікалай Лаўрэшук**
Бандары

## СВМ У ЛІКАХ

У Сакольскім павеце існуе 100 гурткоў Саюза вясковай моладзі (СВМ), у якіх аб'ядноўваецца 2056 членаў. Гэта складае 30% усёй моладзі павета. Вельмі цікава выглядае ўзрост і адукацыя гэтай моладзі. І так, да 19 год налічваецца 1147 членаў, ад 20—25 год — 670 членаў і вышэй 25 год — 239.

А вось адукацыя. Няпоўную пачатковую мае 207 асоб, пачатковую — 1594, няпоўную сярэднюю — 116, сярэднюю — 106, няпоўную вышэйшую — 31 і вышэйшую — 2 асобы.

Месцы працы членаў СВМ наступныя: самастойных гаспадароў — 181, на гаспадарках працуе (пры бацьках) — 1594, настаўнікаў — 49, аграномаў і спецыялістаў сельскай гаспадаркі — 12, трактарыстаў і механікаў — 37, бібліятэкараў — 7 і ўсіх іншых — 176.

Зараз 215 членаў СВМ з'яўляецца членамі ПАРП, а 160 — членамі ЗСЛь. Падчас выбараў у рады нарадовыя 20 членаў СВМ былі выбраны на радных ГРН і 7 — ПРН.

**Ежы Вежбіцкі**
Саколка

# КІНО

**Праграма**
**на 16—21.V.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Sędzia dla nieletnich" (NRD), 16—17. „Pod karnawałową maską" (kubański), 18—19. „Bariera" (polski), 20—21.

**Кляшчэлі**
„Tragiczny zamach" (jugosłowiański), 16—17. „Między linami ringu" (USA), 18—19, „Pamiętnik pani Hanki" (polski), 20—21.

**Дубіны**
„Sprawa Barnaby Kossa" (czeski), „Nikt nie zna prawdy" (czeski), 20—21.

**Нараўка**
„Arcylokaj" (franc.), „Odraza" (węgierski), 17—21.

**Нарва**
„O carski tron" (bułg.), „Siódmy przysięgły" (franc.), 17—21.

**Чыжы**
„Święta wojna" (polski), „Wystrzał" (polski), 17—21.

**Дубічы Царкоўныя**
„Kraksa" (radz.), „Dni grozy i śmiechu" (USA), 17—21.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Śmierć Tarzana" (czeski), „Dziewczyna kłamie" (jugosłowiański), 17—21.

**Орля**
„Zemsta OAS" (franc.), „Tak" (węgierski) 17—21.

**Райск**
„Szalone wakacje" (jugosł.), „Nigdy nie wrócę" (radz.), 17—21.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Rycerz bez zbroi" (bułg.), „Gdy miłość przemija" (jugosł.), 16—19.

**Міхалова**
„Poślubny rejs" (angl.), 16—17. „Popioły" (polski) I i II s, 18—21.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Po latach" (radz.), 16—17. „Listek figowy" (węgierski), 18—19. „Sublokator" (polski), 20—21.

**Шудзялава**
„Nieznany" (polski), „Święta wojna" (polski), 17—21.

**Сідра**
„Wieczny kalendarz" (bułg.), 16—17. „Grek Zorba", (USA), 18—19. „Pierwszy dzień wolności" (polski), 20—21.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Don Gabriel" (polski), „Szkoła grzeszników" (czeski), 20—21.

**Новы Двор**
„Zwyczajny faszyzm" (radz.), „Śmierć Belli" (franc.), 20—21.

**Ліпск**
„Gangster i urzędnik" (USA), „Urocza gospodyni" (USA), 20—21.

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-3', centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.715 Błtk M-3

